Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 14 студзеня 1933 г.

№ 2.

Год 1-шы.

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў
у буднія дні ад 10 да 12 г. раніцай.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## Трыццаць трэцяму.

Яшчэ адзін з таго даўгога цыклю —
Яшчэ адзін ідзе зноў новы год.
Нядолю мы змагаць ужо прывыклі:
Хай ў барацьбе мацнее наш народ!

Мы ня цікавімся, чым „ён“ багаты...
Што ні прынясе — мы прымем ўсё.
Па ўсей зямлі сягоньня бой заўзяты,
І боем ёсьць ўсё нашае жыцьцё.

Прывыклі мы да бед і гора
І знаем — іх спаткаем яшчэ шмат.
Ды ўсё-ж мы цыкль лет гэты зборым,
Цыкль лет нядолі шэрых хат!

. . . . . . . . . . . . . . .

І што ні гавары:
Няхай ідзе за цяжкім годам год,
А дачакаем мы litры,
Калі прачнецца наш народ.

Яму ужо няўмоч
Нясьці ўсю мару цяжкіх сноў.
Хай страшыць чорным чорна ноч:
Ды ў сэрцы б'е прылівам кроў!

М. Машара.

## Трэба рабіць!

Нядаўна ў Лёндане выйшла з друку кніжка ведамага яшчэ з даваенных часоў палітычнага карэспандэнта англійскае газэты „Таймс“, Стэда, пад назовам: „The Antecedents of post-war Europe“, London, Oxford University Press, 1932. Henry Wickham Steed. У гэтай кніжцы, у якой аўтар выяўляе вялізарны ўплыў веданьня гісторыі на эволюцыю народаў, паміж іншым выказана думка, якая асабліва цікаўна для нас, беларусаў. Паводле перакананьня Стэда, абапертага на зробленых ім у гэтай галіне досьледах, з мамэнту сформаваньня нацыянальнае сьвядомасьці ў народу можна часамі штучна прыпыніць разьвіцьцё нацыянальнасьці, але зусім немагчыма перашкодзіць зьдзейсьненьню яе палітычных ідэалаў.

Думка гэтая — вельмі правільная і мусіць уліць новую энергію ў душы тых, хто— пад уплывам цяжкіх перажываньняў нашае сучаснасьці — гатоў ужо апусьціць у безнадзейнасьці рукі. Што-б ні судзіў нам лёс яшчэ перажыць цяжкога, мы ўжо збудзіліся зо-сну, мы—жывы народ і—ведаем, хто мы. І ўперадзе сьвецяць нам ясныя агні. Але, калі абмылкова робяць тыя, якія зьняверыліся ў перамозе беларускае ідэі, дык абмылковым быў-бы і такі пагляд, што „ўсё будзе добра, толькі рабіць нічога ня трэба“. Наадварот: іменна рабіць трэба ўсьцяж, незалежна ад таго, у якіх варунках мы жывем, і рабіць перад усім—у галіне культурна-нацыянальнай: трэба ўсьцяж выкоўваць новыя цэннасьці нацыянальнае культуры, трэба ўсьцяж узвышаць культурны ровень нашага народу. І англійскі публіцыст, які, пішучы сваю кніжку, меў на думцы і беларускую справу, напэўна ня лічыў магчымым, каб жывы народ мог быць бязьдзейным хоць на адну мінуту і—„нічога не рабіць“.

На вялікі жаль, у беларускім жыцьці мы бачылі ня раз дужа сумныя „перабоі“ ў культурнай працы. Такі „перабой“, дапрыкладу, Заходняя Беларусь перажыла ў сувязі з ліквідацыяй Грамады. Поруч з чыста стыхійным грамадаўскім палітычным рухам паўставалі чысьленыя культурныя пляцоўкі; але культурная праца лішне цесна была ўвязана з палітычнай і з упадкам Грамады шмат дзе прыпынілася й занепала на цэлыя гады. Толькі ў тых мясцох, дзе вясковыя дзеячы ў свой час зразумелі ўсю вагу і неабходнасьць самастойнае культурнае акцыі, дзе здолелі ўнезалежніцца ад палітыкі і пабудаваць уласныя народныя дамы й бібліатэкі-чытальні, арганізаваць хоры й тэатры, наладзіць коопэратывы і г. п., — там навет і падзеі апошніх гадоў не разбурылі нашых культурных пляцовак, а калі і разбурылі, дык тыя памалу йзноў пачынаюць аджываць.

Гэты прыклад мае вялікае навучальнае значэньне. Мы ні на мамэнт не павінны забывацца, што палітычныя партыі — навет са-

мыя магутныя—ў нашых варунках не прадстаўляюць нечага абсалютна трывалага, і дзеля таго нельга дапускаць, каб культурныя працаўнікі і культурныя ўстановы разглядаліся, як нейкая дадатковыя прылада ў палітычнай рабоце. Наадварот: культурна-нацыянальная праца ёсьць цэннасьць сама ў сабе, ёсьць тая падваліна нацыянальнага жыцьця, на якой толькі і можна будаваць навет тую ж самую палітыку. І калі наша культурная праца будзе гэтак разглядацца, дык і пагроз цягласьці яе будзе меней, і яна хутчэй выпаўніць тое заданьне дзеля будучыні, аб якім гаворыць успомнены напачатку англійскі публіцыст.

## Аб самапашане і паважаньні жанчыны і дзіцяці.

Калі хочаш, каб цябе паважалі людзі, паважай перад усім сам сябе. Паважай і шануй кожнага чалавека, ці ён вышэй за цябе, ці ніжэй. Шляхотны чалавек паважае іншага не таму, што той дужэйшы, слаўнейшы або багацейшы, а таму, што ён — чалавек. Усе мы чулі,—бо ж аб гэтым кажа навет адно з прыказаньняў,—што трэба шанаваць старэйшага, старога. Але ці каму з нас на вёсцы прыйшло калі ў галаву, што трэба шанаваць дзіця, малога хлапца ці дзяўчынку, не абражаць у іх душы і годнасьці чалавечай? А ў гэтым якраз адзнака культуры, ды можна сказаць, што якраз мерай пашаны да дзіцяці дый апекай над ім мераецца вышыня культуры, бо-ж толькі гэтым шляхам забясьпечываецца духовае і фізычнае здароўе чалавека, які вырасьце з гэтага дзіцяці,—забясьпечываецца будучыня ўсяго грамадзянства.

Як-жа далёкімі ад якой бы то ні было культуры трэба прызнаць звычаі, якія пануюць у гэтай галіне ў нашым вясковым жыцьці! Ці хто калі ў нас лічыцца — злуючы, гневаючыся, лаючыся, — з тым, што яго слухае малая чыстая дзіцячая душа? Ці хто калі стрымае ў часта нялюдзкім гневе цяжкую руку, якая можа скалечыць (дый робіць гэта залішне часта!) на ўсё жыцьцё слабую, безбаронную істоту, якая можа добра расьці ды разьвівацца духова і фізычна толькі ўатмасфэры любові й ласкі матчынай і бацькоўскай?

Але-ж таксама мерай культурнасьці грамадзянстваў і народаў зьяўляецца пашана, якой карыстаецца ў іх жанчына, якая дае жыцьцё новым пакаленьням, робіць народ вечным на зямлі. Ды ізноў: як у нас на вёсцы разумеюць гэтую пашану да жанчыны? Страшэнна-агідная маскоўская лаянка, прынесеная да нас, як нейкая ліхая хвароба, з салдатчыны, блага гаворыць аб гэтым. Гэтая лаянка, абражаючая найдаражэйшае, што ёсьць у чалавека: яго маці,—бясспынна гучыць у нашым вясковым паветры — у хаце, на падворку, у карчме, на полі... І калі б жа толькі з пьяных вуснаў! Але не: заўсёды паўтараецца гэта нацьвяроза, навет бяз злосьці, як нейкая пекная прыказка, ці жартліває слаўцо...

У кожнай вёсцы маладыя дзяцюкі, сьведамыя будаўнічыя духовае сілы і будучыні свайго народу, павінны безадкладна прыступіць да тварэньня гурткоў ці саюзаў, якія-б паставілі сабе мэтай барацьбу з гэтым агідным звычаем дый наагул распачалі самаўзгадаваньне маральнае, абапершы яго на пашане, паважаньні ў сабе і ў другіх чалавека—грамадзяніна—беларуса. Тады толькі змушаны будуць паважаць і шанаваць беларуса і тыя, што цяпер толькі „пануюць" над ім, трактуючы яго, часта (цяжка гэта сьцьвярджаць!) навет зусім слушна, як „быдла". Бо ж запраўды толькі быдла, а не чалавек можа лаяцца так, як лаюцца ў нас на вёсцы—навет на жанчын і дзяцей...

Да рэчы будзе прыпомніць, што слаўны францускі кароль, Людвік XIV, якога празвалі „кароль сонца" ды да якога яго падданыя адносіліся блізу як да нейкага бога, адзначаўся нячуванай навет у рыцарскай Францыі пашанай да жанчыны, хто-б яна ні была. Перад кожнай жанчынай, хаця-б гэта была служанка, ці сялянка, якія былі тады яшчэ і ў Францыі прыгоннай уласнасьцяй абшарнікаў дый блізу ня лічыліся за людзей, — кароль парыцарску здымаў шапку. Навет за парадным абедам з высокімі гасьцьмі кароль заўсёды ўставаў з крэсла, калі ў пакой уваходзіла жанчына, хаця-б гэта была пакаёўка.

Добра напомніць аб гэтым рыцарскім звычаю наймагутнейшага ў тыя часы манарха ў Эўропе нашым высокім паном, рэдка шануючым вясковых ці дваровых жанчын. Але сьпярша трэба, каб гэтая пашана да жанчыны увайшла ў звычай нашага сялянства паміж сабой. Не шануеш себе і сваіх, не дачакаешся пашаны і ад чужых!

## Як перасылаць грошы за газэту.

Гэтым паведамляем нашых падпішчыкаў, што яны могуць перасылаць належныя нам грошы за газэту гэтакім спосабам: 1) купіць на пошце блянк для пераказу на рахунак П. К. О., які каштуе толькі 5 гр., 2) запоўніць яго, як належа, упісаўшы адрас беларускае кнігарні Ул. Манкевіча (Księgarnia Białoruska Wł. Mankiewicza, Wilno, Ostrobramska 1) і нумар конта 61991, 3) на адвароце часткі блянку „dla adresata" напісаць: „За газэту"— і 4) бясплатна здаць разам з блянкам пасыланую суму на пошце.

# Палючая патрэба сялянскага жыцьця.

Часопіс „Зямля і Воля", выдаваны ў Львове, слушна зьвяртае ўвагу на адну з палючых патрэбаў сялянскага жыцьця, асабліва вострую ў часы шалеючага на вёсцы гаспадарчага крызісу і агульнага зьбядненьня.

Колькі ёсьць сярод нашага шматпакутнага сялянства цяпер гаспадароў, якія маюць—добра яшчэ, калі пару, а то ўсяго толькі адну жывёліну: каня ці карову. У такім стане страта гэтага апошняга скарбу, апошняга супрацоўніка ці карміцельніцы сям'і хлебароба зьяўляецца запраўднай гаспадарчэй і папросту жыцьцёвай катастрофай. Ня кажам тутака аб падатках і сэквэстратарах: гутарка аб чым іншым. Трэба пільнаваць жывёлы, а калі яна захварэе, трэба даць якую раду, каб недапусьціць да страты яе. Але дзе-ж ёсьць у нас на вёсцы селяніін, які мог-бы даць сабе раду навет у выпадку лёгкае хваробы жывёлы, не пагражаючае яе жыцьцю? А ведама-ж, што нашыя „знахары" ці яшчэ горш „знахаркі"—гэта заўсёды горшыя ворагі жывёлы, як сама хвароба. У цяжкіх выпадках гаспадар урэшце наважываецца вясьці ці везьці жывёлу да вэтэрынара, або паклікаць яго да сябе. Але-ж дзе там! Прывезьці пана павятовага вэтэрынара —гэта-ж каштуе блізу тое, што варта ў нашыя часы сама жывёла. Дык колькі гіне жывёлы ад гэтай бязраднасьці селяніна ў ягонай бядзе,—нельга і палічыць.

Слушна львоўская газэта трэбуе, каб безадкладна ўрад або самаўрад, ці ўрэшце само грамадзянства прыняло ўсе меры дзеля пашырэньня сярод сялянства прынамся пачатковае веды з галіны першае помачы пры хваробе або іншых няшчасных выпадках у жывёлы. Трэба, каб павятовыя сойміксі безадкладна наладзілі „лятучыя атрады" адпаведных інструктароў, якія-б ня толькі маглі шпарка пералятаць з месца на месца дзеля аказаньня вэтэрынарнае помачы насяленьню, але ў цэлым радзе гусьцей населеных пунктаў чыталі ў дасутпнай, зразумелай для насяленьня форме лекцыі аб лячэньні захварэўшае жывёлы. Трэба, каб у кожнай вёсцы быў заўсёды прынамся адзін, ну, калі ня фэльчар-вэтэрынар, дык хаця-б проста добра граматны селянін, які-б праслухаў уважна гэткі „пунктовы курс" і мог аказываць сваім аднавяскоўцам дапамогу хоць у прасьцейшых выпадках.

Патрэба ў гэтым, як разумее кожны, — палючая. Дык і людзі, і грошы на гэта павінны знайсьціся. А бліжэйшым чынам абавязак гэты ляжыць на нашым павятовым самаўрадзе.

**Радныя беларусы! Парупцеся аб гэтым!**

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб перахоўваньні збожжа.

Пасьля малацьбы і гарфаваньня рахуецца, што ўсе працы над збажыною скончаны. Тым часам гэта ня зусім так. Калі мы хочам, каб зярно ў нас захавалася даўжэйшы час і не сапсавалася, або каб з яго быў добры пасеўны матэр'ял, дык мусімо яго перахоўваць у адпаведным месцы і адпаведным спосабам.

Найлепей перахоўваецца збожжа ў такім будынку, які стаіць у месцы вышэйшым, адкрытым і воддаль ад іншых будынкаў. Самы-ж будынак павінен быць зроблены так, каб яго лёгка было праветрываць і шчыльна зачыняць.

Калі будоўля, прызначаная для перахоўваньня збожжа, прасторная і добра праветрываецца, дык і ня зусім яшчэ сухое зярно ў такой будыніне дасохне. У большых і добра пастаўленых гаспадарках зярно адразу па малацьбе не ссыпаецца ў засекі а рассыпаецца ў клеці на падлозе пластам ня грубей 12-15 цэнтымэтраў. Кожны дзень пласт гэты павінен быць добра перамешаны шуфляваньнем. Спачатку шуфлюецца ня менш, як адзін раз у дзень, а пасьля, калі прасохне, можна збожжа зграбці ў большыя кучы і перашуфлёўваць ужо раз на тыдзень, а пазьней і раз у два тыдні.

Для лепшага праветрываньня зярнятаў часта ссыпаюць у клець зярняты разам з мякінаю. Як-бы зярно ні перахоўвалася, карысна яго ўвесну вынесьці на сонца і добра перашуфляваць, а калі гэтаму не дазваляе пагода, то трэба абавязкова перагарфаваць.

Апрача таго, што збожжа можа быць лёгка пашкоджана ад залішняе вільгаці, шмат шкоды ў клеці робіць яшчэ рознае рабацтва і мышы.

Найболей небясьпечнымі шкоднікамі ў клеці, апрача мышэй, ёсьць зернавая і хлебная молі. Адну моль ад другое лёгка можна адрозьніць па тым, што зернавая моль, выядаючы нутро зярнят, злучае яшчэ паасобныя зярняты паміж сабою павучыньнем, а хлебная моль не абвівае зярнят павучыньнем.

Барацьба з гэтымі шкоднікамі вядзецца шляхам добрага перашуфлёўваньня і праветрываньня памяшканьня наагул.

Калі-ж тая ці іншыя моль пашырыцца ў клеці, што трэба тагды ўжыць больш радыкальных сродкаў. Адным із такіх сродкаў ёсьць аграваньне збожжа ў працягу 3 гадзінаў на + 50° Ц. Пры такой тэмпэратуры зярняты ня трацяць здольнасьці прарастаньня, а моль гіне. Калі зярняты ня прызначаны для севу, то можна награваць іх сьмялей да 60—70° Ц. Пры вялікіх колькасьцях збожжа для нішчэньня молі ўжываюць атрутных газаў, як двусярчан вугля ды хлёрапікрын.

Што-ж тычыцца самога памяшканьня, дзе аб'явілася зерневая або хлебная моль, то яго трэба ачысьціць і дэзынфэкаваць карболінэумам, зьмешаным з лізолем. Шчыліны і іншыя шпары замазаць вапнаю, зьмешанай з тэрпэнтынай. **А.**

## Аб прыгатаўленьні кармоў для жывёлы.

Пытаньне аб харчох для жывёлы ў нашай вёсцы стаіць вельмі востра. Звычайна вясною рэдка ў каторага гаспадара выходзіць жывёла ў поўным целе, — яна за зіму так схудзее, што часамі яе прыходзіцца падымаць на вяроўках. Такая гадоўля, бязумоўна, ня толькі не дае гаспадару зыску, а часта наадварот—страту. Нашы сяляне яшчэ не навучыліся ў шырокай меры культываваць кармавыя расьліны, як гэта ёсьць у культурных краінах, а дзеля таго з году ў год і цярпяць ад недастатку харчоў. Гэтая бяда значна павялічваецца і дзеля таго яшчэ, што ня кожны гаспадар адпаведна выкарыстоўвае той корм, які ў яго ёсьць. Нам ня раз прыходзіцца быць сьведкамі, што ў розных гаспадароў пры аднолькавай колькасьці кармоў і жывёлы гэта апошняя не аднолькава выглядае: ў аднаго яна заўсёды трымаецца ў целе, а ў другога—ледзь ногі перастаўляе. З гэтага відаць, што кармленьне ня простая рэч, што на гэта нашым гаспадаром трэба зьвярнуць болей увагі.

Уменьне кармленьня палягае на тым, што жывёла кожны дзень раўнамерна атрымоўвае ў корме патрэбную колькасьць пажыўных складнікоў. З другога боку, калькуляцыя вымагае, каб такі корм быў яшчэ і танным, а знача дарагіх, бялковых кармоў, як вотрубы, макуха і г. д., трэба даваць такую колькасьць, якую ўжо нельга замяніць іншымі таньнейшымі кармамі. Дзеля гэтага ў паступовых гаспадарках кормяць жывёлу паводле нормы.

Апрача таго, што ў корме для жывёлы неабходна адпаведная колькасьць пажыўных складнікоў, трэба, каб гэты корм быў у форме найболей прыгоднай для ўспрыняцьця і пэратраўленьня яго арганізмам жывёлы.

Вось-жа, як прыгатаваць той ці іншы корм, каб ён найболей адпавядаў толькі-што пастаўленым вымогам, мы і пастараемся тут коратка расказаць. Спосабаў прыгатаваньня кармоў ёсьць шмат, але мы тут падамо найболей простыя, якія без вялікай абцяжнасьці могуць быць выкарыстаны ў нашых дробных гаспадарках. Такімі простымі спосабамі апрацоўкі кармоў ёсьць: драбленьне, мачэньне, гатаваньне, квашэньне, запарваньне і г. д.

Усе кармы па сваім кармавым якасьцям разьбіваюцца на тры вялікія групы: кармы грубыя, сачыстыя і канцэнтраваныя або сытныя. Стасоўна да гэтага падзелу паасобныя кармы кожнае групы мы і будзем разглядаць.

**Грубыя кармы.** Да грубых кармоў у нас належаць: салома, мякіна, сена і г. д.

З усіх гэтых кармоў найменш падрыхтоўкі вымагае сена. Толькі адно трэба заўважыць, што сьвежым сенам, покуль яно ня выпацее, нельга карміць. Добра высушанае сена можна ўжо даваць жывёле пасьля чатырох тыдняў. Аканчальна выпацее сена толькі пасьля 4-5 месяцаў.

Што-ж датычыцца саломы і мякіны, дык іх ужо прыходзіцца патрыхтоўваць часьцей адпаведным спосабам. Салому рэжуць на сечку, а апошнюю, таксама, як і мякіну, часта запарваюць, або заквашваюць. Вельмі дробную сечку рэзаць ніколі няварта, бо такі корм вельмі часта выклікае парухі ў траўленьні і колькі. Для коней трэба рэзаць сечку ня меней 2 цэнт., а для кароў 4-5 цэнтымэтраў. Чым салома мягчэйшая, тым даўжэйшая з яе рэжацца сечка. Мусімо тут адзначыць, што вышэй паданыя кармы падносутыя, як салома з палёгшага жыта, сплясьнелая, або заражаныя іржою, павінны быць выключаны з корму. Калі-ж з тых ці іншых прычынаў такія кармы прыходзіцца даваць жывёле, дык трэба іх абавязкова запарыць гарачаю вадою, прычым яны могуць быць ужыты толькі для рагатае жывёлы, але не для коней.

Апрача гэтага частабвусім добрую сечку і мякіну запарваюць, ка зрабіць яе смачнейшай, а ячменная мякіна, дзякуючы асьцюкам, без запарваньня ня можа быць ужыта для корму. Спосаб запарваньня корму гарачаю вадою ў нашай вёсцы добра вядомы, але затое амаль што не вядомы другі спосаб, па якому сечка ці мякіна запарваюцца шляхам самасаграваньня. Паранка па гэтаму спосабу прыгатаўляецца наступна: поўная колькасьць сечкі ці мякіны, якая мае быць скормлена за дзень, усыпаецца пластамі ў бочку ці цэбар і скрапляецца звычайнай летняй вадою. Вады трэба даваць гэтулькі, каб пры сьціскаваньні ў руцэ сечкі тварыўся камяк, але каб вада не выціскалася. Добра да сечкі ці мякіны дадаць яшчэ трохі солі. Пасьля бочку трэба прыкрыць векам, а на века палажыць яшчэ камень і пакінуць бочку стаяць у працягу 3-х дзён. Сечка ці мякіна ў бочцы сагрэецца і заквасіцца, пасьля чаго робіцца смачнейшаю і з ахвотаю паядаецца жывёлаю. Зразумела, што бочка павінна стаяць у цёплым мейсцы. Пры жаданьні мець кожны дзень такі корм, трэба абзавясьціся трыма бочкамі і ў першыя тры дні напаўняць кожны дзень па бочцы, а на чацьвёрты дзень корм з першае бочкі выбіраецца і замяняецца сьвежым, на пяты дзень тое самае робіцца з другою бочкаю і г. д. Вобмешку, буракі, бульбу і інш. кармы ня можна запарваць разам з сечкаю, а трэба дадаваць іх перад самым кармленьнем. Бочкі раз на тыдзень трэба добра вычысьціць.

С. А.

(Працяг будзе).

# З Беларускага жыцьця.

## На правінцыі.

**Першая ластаўка.** На заклік Бацьк. Камітэту з Вільні, каб вёска дапамагла незаможным вучням беларускае гімназіі (цяпер урадавае), першая адгукнулася моладзь у вёсцы Канюхі, Баранавіцкага пав., пастанавіўшы наладзіць спэктакль-вечарыну, даход з якое пойдзе на гэту мэту. Маняцца паставіць дзьве п'есы: „Жыцьцёвыя вузлы" і „Першыя ластаўкі".

Пажадаем, каб добры пачатак моладзі ў Канюхох быў запраўды „першай ластаўкай" ўчасьця беларускага сялянства ў узгадаваньні будучае беларускае інтэлігенцыі.

**Тэатр Тав. Белар. Асьветы, (Карэсп.).** 8 і 9 студня адбыліся ў павятовай Вялейцы 2 спэктаклі беларускае трупы з Вільні, з'арганізаванай нова - заложаным Таварыствам Белар. Асьветы пад кіраўніцтвам гр. Міхалевіча. Ставіліся п'есы „Дзядзька Якуб", „Шустрая бабулька" (з рас.) і „Страхі Жыцьця" Аляхновіча.

Прыезд беларускага тэатру выклікаў нязвычайнае ажыўленьне, як у месьце, таксама і ў-ва ўсей ваколіцы. Бо-ж даўным даўно ня чулі тутэйшыя беларусы са сцэны роднае мовы. Саля кіна „Полёнія" была перапоўнена. У нядзелю на спэктакль зьехалася шмат сялян з бліжэйшых вёсак. Ня гледзячы на цяжкія часы, сяляне прадавалі, што толькі маглі, каб папасьці ў тэатр.

І не дарма. Ігра артыстаў папросту захапіла прысутных. Асабліва вызначаўся сваей артыстычнай ігрой малы хлопчык Быхавец—у ролі Алеся ў драме „Страхі жыцьця". Гэтаму малому артысьцэ можна прарочыць вялікую будучыню. Таксама трэба асабліва адзначыць мастацкую ігру гр. Зіны Міхалевічанкі, гр. Быхаўцовай, гр. Міхалевіча, фахоўца-артыста Замэцкага і гр. Сіняўскага. Наагул увесь оклад трупы стаяў на вышыні артыстычнага заданьня.

Ад імя мясцовага насяленьня нашай ваколіцы хочацца шчыра падзякаваць арганізатараў і артыстаў Беларускага Тэатру за дастаўленую нам мастацкую радасьць і прамаўляючую нам да сэрца музыку роднае мовы—у творстве мастакоў нашае драмы.

З задаваленьнем адзначалі кіраўнікі трупы больш, чым карэктнае адношаньне мясцовых уладаў, як адміністрацыйных, так і самаўрадавых, да справы белар. тэатру. Толькі вось — тады, як магістрат зьняў падатак штэмплёвы, староства за дазвол (!) узяло аж 11 злотых!!... Відаць, у Вялейскім староостве пануюць іншыя парадкі, чым у староостве Ашмянскім, дзе за дазвол на спэктаклі 27-28 сьнежня не ўзялі ані грошыка, ведаючы, што белар. тэатральная дружына езьдзіць не дзеля зыскаў, але аддае сваю ахвярную працу дарма — дзеля культурна-нацыянальнага ўзгадаваньня роднага народу.

На жаль,—з боку мясцовага польскага грамадзянства адношаньне да беларускага тэатру выявілася і ў Вялейцы, як раней у Ашмяне, залішне ўжо ясна. На спэктаклях ня было ніводнага паляка, калі ня лічыць п. пшодовніка і паліцыянта, якія былі прысутныя „z urzędu".

**Вялейскі старажыл.**

## У Літве.

**Беларускі Кангрэс у Літве** склікае ў студзені месяцы Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва. Кангрэс мае высьветліць шэраг актуальных для беларускае меншасьці пытаньняў. Зара' ідзе энэргічная падрыхтоўчая праца па арганізацыі Кангрэсу.

**Беларускі Народны Унівэрсытэт у Літве.** Загадам міністра асьветы з 16-га сьнежня Беларускаму Культурна-Асьветнаму Т-ву дазволена заклась ці Беларускі Народны Унівэрсытэт у Коўне, які будзе мець аддзелы і ў правінцыі. Народны Унівэрсытэт будзе зьмяшчацца ў будынку „Беларускае Хаткі" на вуліцы Крашэўскага 34. У 1932-33 навучальным годзе ў праграму Народнага Унівэрсытэту ўвойдуць галоўным чынам прадметы беларусаведы: гісторыя беларускае літаратуры, гісторыя беларускага адраджэнчага руху, гісторыя беларускага мастацтва, сыстэматычны курс гісторыі і геаграфіі Беларусі ды беларуская мова.

**Арганізацыя Беларускага Народнага Тэатру.** Вынікі шэрагу пастановак драматычных дружын Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Коўне і ў правінцыі выявілі, што ў беларусаў у Літве ёсьць даволі артыстычных сіл, з якімі можна арганізаваць сталы Беларускі Народны Тэатр. Праўленьне Беларускага Культурна - Асьветнага Т-ва занялося гэтаю справаю, і зараз думка аб сталым Беларускім Народным Тэатры ў Літве ўжо сталася фактам: тэатр наладжаны пад кіраўніцтвам гр. А. Матача і гр. А. Матачовай.

**Беларускі радыё-канцэрт** з повады 50-цігодзьдзя Якуба Коласа адбыўся ў сярэдзіне лістападу. У праграме быў рэфэрат аб Якубе Коласу, дэклямацыя ягоных твораў і сьпевы солістаў. Гэткі-ж канцэрт з повады 50-ых угодкаў Янкі Купалы адбыўся ў чэрвені месяцы.

**Беларускі Аддзел пры кнігарні „Кпуga"** адчыніўся ў Коўне на алеі Волі (Laisvės aleja 26). Праз гэту кнігарню можна даставаць усялякія беларускія кнігі. Пры кнігарні закладаецца зара' сталая беларуская бібліятэка.

**Беларуская лекцыя-канцэрт у м. Жосьлях** Троцкага павету адбылася 13 лістапада. Беларускі Народны Тэатр, вандруючы зара' па Літве, паставіў тутака камэдыю Л. Радзэві-

ча—„Зьбянтэжаны Саўка“ і арганізаваў канцэрт Беларускага Народнага Хору, які выканаў каля 20 беларускіх народных сьпеваў. Пасьля канцэрту адбылася лекцыя на тэму—„Беларусазнаўства і літоўска-беларускае яднаньне“. Канцэрт-лекцыя прайшла з вялікім посьпехам.

## У Латвіі.

**Біографіі беларускіх дзеячоў.** Беларускае Навукова-Краязнаўчае Таварыства ў Латвіі рыхтуе да выпуску зборнік пад назовам: Біяграфіі дзеячоў Беларускага Адраджэньня. У зьвязку з гэтым Праўленьне Т-ва зьвяртаецца да ўсіх беларускіх паэтаў, грамадзкіх дзеячоў, вучыцялёў, артыстаў і ўсіх іншых грамадзян, актыўна працаваўшых і працуючых у беларускім адраджэнчым руху, з просьбаю як мага хутчэй надаслаць у канцэлярыю Т-ва: 1) падрабязныя свае аўтабіяграфіі і фатаграфічныя карткі; 2) біяграфіі і фатаграфіі тых беларускіх дзеячоў, што самі, па тых ці іншых прычынах, прысылаць аб сабе вестак ня маюць магчымасьці. Усе матар'ялы трэба накіроўваць на адрас: Latvijā, Rīgā, Elija ielā, 20, dz. 25, K. Jezavitavu.

**Беларускае Навукова - Краязнаўчае Т-ва** прыступіла да друку намечаных на 1932 год выданьняў. У першую чаргу выдрукаваны асобнай брашурай статут Т-ва на беларускай мове. Зара' здадзена ў друк праца гр. Б. Брэжго „Ахова помнікаў старажытнасьці на Віцебшчыне“, першы аркуш якой ужо надрукаваны. Далей пойдзе праца гр. М. Вяршыніна: „Продкі беларусаў і славянства“, якая атрымана ў лістападзе з Прагі і зара' падрыхтоўваецца да друку.

**Чарговы нумар „Беларускае Школы ў Латвіі“** (№ 7) зьмясьціў цікаўную стацьцю К. Езавітава аб без пары памершым беларускім пісьменьніку Віктары Вальтару, цікаўны раман якога „Роджаныя пад Сатурнам“ з жыцьця беларускае эміграцыі і студэнцтва ў Празе ўсё яшчэ ляжыць недрукаваны.

## Б. С. С. Р.

**Літэратурны конкурс.** Народны камісарыят асьветы БССР вызначаў, як падае „Сав. Беларусь“ з 16. XII. 32 г., рад прэміяў за лепшыя літэратурна-мастацкія творы на Беларусі.

1-ю прэмію атрымаў за літэратурны твор, прызнаны найлепшым, Міхась Чарот; 2-ю прэмію атрымалі А. Александровіч і П. Галавач; 3-ю прэмію атрымаў М. Зарэцкі. За лепшыя драматычныя творы дзьве 1-ыя прэміі атрымалі: Рыгор Кобец і Кузьма Чорны. —2-ю прэмію не атрымаў ніхто.

1-ая прэмія за музычны твор падзелена між Аладавым і Туранковым.

**Зборнік гэрояў першай пяцігодкі Менску...** Як падае „Сав. Беларусь“ з 8. І. 33 г., у Менску Камітэт Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў БССР гатуе да друку зборнік, у якім будуць зьмешчаны нарысы і апавяданьні аб лепшых ударніках прадпрыемстваў Менску.

У работах па складаньні зборніку прыймаюць удзел пісьменьнікі: Цішка Гартны, Баранавых, Знаёмы і інш.

**Складаньне гідролёгічнага даведніка Беларусі.** Як падае „Сав. Беларусь“ з 4. І. 33 г., у студзені гэтага году будзе скончана складаньне гідролёгічнага даведніку Беларусі, дзе знойдзе месца падрабязнае апісаньне водных рэльефаў Беларусі, часткі т. зв. Заходняй Акругі і Украіны, з ахопам усей тэрыторыі басэйну Заходняй Дзьвіны ў межах СССР і Дняпра да гораду Кіева.

У складаньні даведніка, акрамя Беларускага гідролёгічнага інстытуту, прыймае ўдзел рад іншых навукова-дасьледчых інстытутаў і навуковых работнікаў, прыкладам — акадэмік Блюдуха, праф. Кайгародаў, інжынеры Лаўроў, Даўкевіч і інш.

**Адкрыты ліст.** Беларуская Акадэмія Навук, паводле пастановы сьнежаньскай сэсіі, зьмясьціла ў „Сав. Беларусі“ з дня 2. І. 33 г. адкрыты ліст да грамадзян БССР, заклікаючы іх да змаганьня за... ураджай, ясна па прыказу згары, лаючы і ганьбуючы ўсялякіх „нацдэмаў“ і іншых беларускіх „буржуазна-кулацкіх контррэвалюцыянэраў“.

Ліст БАН робіць самае непаважнае ўражаньне і стаіць на роўні звычайных камуністычных праклямацыяў, а канчаецца „вернападданым“ паклонам у бок Аллаха і яго прарока Магамэта: „Няхай жыве лепшы вучань Леніна—любімы (?!) правадыр тав. Сталін!“.

Камэнтары да гэтага хіба-ж непатрэбны...

## У Чэхаславаччыне.

Як ведама, на эміграцыі ў Чэхаславаччыне асталося некалькі дзеячоў, якія не згадзіліся на ліквідацыю ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1925 годзе і не вярнуліся ў Менск. Сярод гэтых дзеячоў быў і старшыня Рады Рэспублікі (пасьля яе расколу) гр. Пётра Крэчэўскі, пасьля сьмерці каторага яговыя абавязкі пераняў гр. В. Захарка. Апошнімі днямі канцэлярыя Старшыні Рады Бел. Нар. Рэспублікі разаслала паведамленьне аб пасылцы — за подпісам гр. Захаркі—мэморыялу ў Лігу Нацыяў, у каторым малюецца палажэньне беларускага народу пад уладай Саветаў і ў Польшчы.

## У Амэрыцы (USA).

У Чыкаго 11 сьнежня м. г. адбыўся што-годні агульны сход сяброў Саюзу Беларуска-Амэрыканскіх Грамадзян. На сходзе быў выбраны прэзыдыюм на 1933 год у гэткім складзе: старшыня—І. Лабач, скарбнік—П. Яцкоўскі, сэкрэтар—І. Івінскі.

Адрас Саюзу гэткі: Whiterussian-American Citizens Organization 2623 Augusta Blvd, Chicago Ill.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Пазыкі сялянскай беднаце на адбудову маюць быць даравацы.** Рада міністраў апрацавала праект новага закону, які мае цалком дараваць пазыкі на адбудову зьнішчаных вайною гаспадарак, выданыя бяднейшаму насяленьню. Такім чынам, пазыкі да 1000 зл. маюць быць „умоэжоны", а вышэй 1000 зл.— значна зьменшаны.

**З Сойму.** Пасьля сьвяточнага перарыву ўзнавілася праца Сойму і соймавых камісіяў. У бюджэтнай камісіі—пры разглядзе выдаткаў міністэрства замежных спраў—пасол Чапінські (ППС), паміж іншым, адзначыў, што польская палітыка ў адносінах да беларусаў вядзецца так, што дае для замежнае прэсы падставы да вострых выступленьняў проці Польшчы. Паслы з урадавае партыі ББ пярэчылі ягоным закідам і радзілі прыехаць на Беларусь ды самому пераканацца, як добра жывецца беларусам у Польшчы...

**Паседжаньне Сойму.** 12 студня адбылася паседжаньне пленуму Сойму. Прыняты ў першым чытаньні, гэта значыць—перасланы ў камісіі дзеля далейшай апрацоўкі, рад важных урадавых законапраектаў, у тым ліку — праект новага статуту для вышэйшых школаў, блізу касуючага іх аўтаномію (самаўрад).

**400 прысудаў сьмерці за 5 гадоў.** У юрыдычнай камісіі Сойму разглядаўся законапраект клюбу ППС — аб скасаваньні „даразных" судоў. Дакладчык праекту заявіў, што за апошнія 5 гадоў у Польшчы вынесена 350—400 прысудаў сьмерці, тады як, прыкладам, у Італіі за гэты час выканана толькі 9.

## Заграніцай.

**Справа перагляду польска-нямецкай граніцы.** 1932-гі год, як сцьвярджае ўся эўрапейская прэса, даў Нямеччыне блізу поўнае фактычнае скасаваньне Вэрсальскага трактату. Мінулы год ужо не застаў у Нямеччыне ані ваеннае акупацыі, ані ваеннага кантролю. Адшкадаваньні фактычна скасаваны на Лёзанскай канфэрэнцыі ў сярэдзіне 1932 г., а „раўнапраўе ў збраеньнях" здабыла Нямеччына ў канцы году на нарадах камітэту 5-ёх вялікіх дзяржаў. Такім чынам, з Вэрсальскага трактату засталіся толькі новыя граніцы Нямеччыны.

Дык вось, пачынаючы ад навагодняе прамовы прэзыд. Гіндэнбурга, уся Нямеччына заяўляе голасам сваёй прэсы, што 1933-ці год павінен даць ёй перагляд тэрыторыяльных пастановаў трактату. І запраўды-ж, ад новага году распачалася нячуваная кампанія Нямеччыны за перагляд, у першую чаргу, польска-нямецкае граніцы.

Але-ж не толькі нямецкая, а таксама і італьянская, ангельская, а навет француская прэса выразна ставяць гэтую справу на чаргу дня. Асабліва грозна для Польшчы тое, што ў Францыі ўрад Эрыо, які так рашуча бараніў польскія інтарэсы, зьмяніўся на ўрад Поля Бонкура, у склад якога ўваходзіць рад выразных прыхільнікаў памыснага для Нямеччыны вырашэньня справы „польскага калідору". Навет сам прэм. Бонкур у сваёй першай дэклярацыі зрабіў заяву аб „некаторых параграфах трактатаў, страціўшых цяпер сэнс", якую нямецкая прэса тлумачыць на карысьць перагляду граніцаў.

Ня дзіва, што Польшча, страціўшы веру ў сваіх прыяцеляў на Заходзе, зьвярнула ўвагу на Усход. У канцы году якраз канчальна зацьверджаны п. Прэзыдэнтам польска-савецкі трактат аб узаемным ненападаньні.

Ці знойдзе Польшча апору і падтрыманьне ў Саветах проці Нямеччыны, цяжка сказаць. У кожным разе новы год можа быць для Польшчы—ў яе барацьбе з Нямеччынай за нятыкальнасьць яе дзяржаўнай тэрыторыі—вельмі цяжкім.

**Фінляндзкая марская крэпасьць вылящелаў паветра.** Фінляндзкая крэпасьць у Фінскай затоцы на востраве Мэк-Эліот зруйнавана выбухам, які тамака здарыўся ад пажару. Страты—вялізарныя. Шмат ёсьць забітых і раненых. Крэпасьць мела вялікае значэньне дзеля абароны Фінляндыі.

**Гібель другога найвялікшага француснага акеанскага параходу.** Ня так даўно ўвесь сьвет, а асабліва Францыю прывяла ў жах гібель ад агню найвялікшага і найнавейшага з яе акеанскіх параходаў Жюль-Філіпара, каторы вяртаўся з Японіі, якой вазіў амуніцыю дзеля вайны з Кітаем. А вось толькі-што каля самых берагоў Францыі акурат таксама згарэў, быццам сернік, другі такі-ж самы параход, які курсаваў паміж Францыяй і Паўдзённай Амэрыкай. Думаюць, што ў абодвух выпадках прычына—падпал. Але слушна закідаюць спэцыялісты французкім інжэнерам, што залішне ўжо шпарка спаліўся параход, на якім быццам была зьвернена спэцыяльная ўвага на проціпажарныя прылады пры яго будове. Цікаўна, што якраз у дзень пажару за некалькі гадзін была падпісана ўласьнікам карабля страхавая ўмова з некалькімі страхавымі таварыствамі. Такім чынам грашовых стратаў уласьнікі не панясуць. Але гаспадарчыя страты Францыі — вялізарныя: іншыя дзяржавы зараз жа займуць месца Францыі ў камунікацыі паміж Эўропай і Паўдзённай Амэрыкай.

**Шляхотная барацьба Гандзі.** Духоўны і нацыянальна-палітычны правадыр індускага народу Гандзі распачаў ужо другі раз галадоўку. Але цяпер пагрозай самагубства ён хоча змусіць да послуху сваёй шляхотнай волі не ангельскую ўладу, але сваё ўласнае грамадзянства — на чале з брамінамі, якія адыгрываюць у Індыі блізу тую-ж ролю,

як каталіцкае духавенства ў сярэднявечнай Эўропе. Гандзі трэбуе, каб усё індускае грамадзянства, падзеленае на некалькі „кастаў", прызнала... людзьмі так-зван. „парыяў", якія не ўваходзяць да ніякае касты, дык трактуюцца горш, як сабакі: яны ня маюць права навет увайсьці ў сьвятыню, дзе моляцца ўсе іншыя жыхары-індусы. Але брамішы спрацiўляюцца зацята, даводзячы, што Гандзі гэтым бурыць „рэлігійны лад, які існуе ў Індыі некалькі тысячаў гадоў", а з ім разам... губіць і ўсю Індыю.

Прыхільная да Гандзі прэса піша з абурэньнем, што навет ворагі—англійцы не захацелі ўзяць на сваё сумленьне сьмерць Гандзі дый уступілі, а вось у афіцыяльных ахоўцаў „індускай рэлігіі" сумленьне аказваецца „мацнейшым"...

**Новая вайна Кітаю з Японіяй.** Асьмеленая бясосільлем Лігі Нацыяў і прыхільным нэйтралітэтам СССР, Японія распачала новы захват кітайскае зямлі, каб забясьпечыць граніцы між Манчжурыяй і рэштай Кітаю. Японія быццам мяніцца зрабіць з усім Паўночным Кітаем тое-ж, што зрабіла з Манчжурыяй: адцяць яго ў „незалежную" дзяржаву. Кітайскія гарнізоны захопліваных местаў і портаў бароняць іх да апошняга, але перавага японцаў залішне вялікая. Кітайскі ўрад, пасьля вострага пратэсту, мае абвясьціць вайну Японіі. Так крывава распачаўся новы год, пакуль-што толькі на Далёкім Усходзе.

Перачытаўшы газэту — передай другому.

# Усячына.

## Эканомія і таненьне вырабаў ад поступу тэхнікі.

У 1800 г. на тонну (1000 кіл.) вырабленага сырцу (на фабрыках і заводах) у сярэднім спалялася 8 тоннаў каменнага вугальля. У 1900 г.—ўсяго толькі 1 тонна. За 100 гадоў палiва ў тэхніцы навучыліся ўжываць эканомней у 8 разоў.

—.—

У 1870 г. з гэктару цукровых буракоў дабывалася ў цукроўнях найбольш 2000 кілягр. цукру. У нашыя часы добрая гаспадарка ў полі і на заводзе дае з гэктара 5000 кілгр. цукру, ні—ў паўтраця раза больш.

У 1836 г. каб дабыць у цукроўні 100 кіль цукру, трэба было 1800 кіл. буракоў; цяпер тую-ж колькасьць цукру даюць 579 кіл. буракоў. Гатунак гэтай цэннай гародніны, яе цукроўнасьць так палепшаны працай садаводаў.

—.—

Кожны блізу ведае да сьмешнасьці лёгкі мэталь алюміній, ці глінь, які цяпер гэтак пашыраны ў тэхніцы, бо—пры малай вазе мае яшчэ і шмат іншых цэнных уласьцівасьцяў: не ржавее, не баіцца квасаў, навет моцных, і т. д. Дзеля сваей лёгкасьці, алюмінь цяпер асабліва ідзе на будову аэрапляноў, а дзеля сваей адпорнасьці на розныя квасы — вельмі пашыраны ў тэхніцы прыладаў дамовай гаспадаркі: з яго выробляюцца танныя лыжкі, начыньне для кухні і т. д. Мэталь гэты найбольш распаўсюджаны ў зямлі і дабываецца з нашай гліны (таму й завецца „глінь"). Але толькі нядаўна хімікі знаршлі танны спосаб заводзкае яго дабычы. Яшчэ ў 1855 г. кіляграм алюміня каштаваў 2000 зл.; цяпер не каштуе 1 2 зл.

—.—

Такое цудоўнае патаненьне рознага роду тавараў дасягаецца ў тэхніцы з помачай адпаведных, усе больш дасканалых, машынаў. Прыкладам, ведамая, нажаль, кожнаму нашаму чытачу манапольная будэлька выраблялася раней на шкляных гутах работнікамі—дзьмухачамі, якія набіралі з катла расплаўленай масы шкла спэцыяньнай „файкай", з якое пасьля выдзьмухівалі тое ці іншае формы судзіну.

Цяпер у новачэсных гутах усё гэта робіць машына, якая збудована ў 1908 г. амэрыканцам Оўэнам. Далейшае дасканаленьне машыны каштавала 4 мільёны злотых, але патэнт свой вынаходца прадаў толькі ў адну Эўропу за 25 мільёнаў зл. За тое цяпер прадукцыя на гэтай машыне ідзе і хутчэй, і таньней. Машына, пры якой стаяць толькі 3 работнікі, вырабляе 20.000 бутэлек у дзень, на што даўней патрэбна было каля 100 дзьмухачоў.

### „Небасироб" у 120 паверхаў.

У Нью-Іорку, як ведама, дагэтуль найвышэйшым „небаскробам" быў гмах аднаго з акцыянерных таварыстваў, які мае 85 паверхаў. Інжэнеры лічылі, што варункі грунту, а такжа загады тэхнікі не дазваляюць будаваць вышэйшых за яго гмахаў навет з найманнейшае сталі. Але вось, толькі нядаўна вейкі будаўнічы Ляркін падаў да зацьверджаньня ўладам плян новага дому ў 120 паверхаў, зьбіўшы ўсе доказы інжэнэраў аб немагчымасьці такое будоўлі.

**Бацькі!**
**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!**

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22

42972